ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Люты 2015

## У НУМАРЫ:

### Правы спажыўцоў – кожнаму!

*Змены ў закон "Аб абароне правоў спажыўцоў"*

- Пазіцыя дэпутата Мурашка

- Пазіцыя дэпутата Харытончык

- Пазіцыя дэпутата Дудкіна



НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

17.12.2014 № 242

Случаку І.У.
246012 г. Гомель
[redacted]

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Разгледзеўшы Ваш зварот па пытанні аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь ад 12.12.2014 № 109 "Аб абароне правоў спажыўцоў", паведамляю, што дадзеная прапанова патрабуе ўсебаковай прапрацоўкі і шырокага вывучэння як сярод спажыўцоў, так і сярод вытворцаў.

Трэба адзначыць, што пункт 9 артыкула 7 "Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) вызначае, што інфармацыю аб таварах вытворца абавязаны давесці да ведама спажыўца на беларускай або на рускай мове, што адпавядае артыкулу 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) у абавязковым парадку павінна ўтрымоўваць не менш за 14 звестак аб тавары, а таксама аб складзе харчовых прадуктаў на ўпакоўцы, што ў сваю чаргу патрабуе вывучэння тэхнічных і тэхналагічных магчымасцей абсталявання па выпуску ўпакоўкі, магчымасці чытання нанесеных тэкстаў і фінансавых магчымасцей саміх вытворцаў, а самае галоўнае – любое павышэнне кошту можа выклікаць незадавальненне многіх катэгорый грамадзян.

Прымаючы да ўвагі вышэйвыкладзенае, лічу, што ўнясенне дапаўненняў і змяненняў у дадзены закон у цяперашні час з'яўляецца немэтазгодным.

З павагай,
Дэпутат Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу
Рэспублікі Беларусь І.Мурашка

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ДЭПУТАТ
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ДЕПУТАТ
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

16.12.2014 № 89

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Мною разгледжана Ваша прапанова па ўнясенні змяненняў у дзеючы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў».

Па сутнасці звароту паведамляю Вам, што я не падтрымліваю Вашу прапанову.

Згодна з артыкулам 30 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі па карыстанню таварамі выконваюцца на беларускай або рускай мове. М аркіроўка тавараў, прызначаных на вываз за межы Рэспублікі Беларусь, выконваецца на беларускай ці рускай мове, або на мове заказчыка.

Пунктам 9 артыкула 7 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» устаноўлена, што інфармацыя, прадугледжаная пунктамі 1 — 8 гэтага артыкула, на беларускай або рускай мове выразным і разборлівым шрыфтам даводзіцца да ведама спажыўца ў дакументацыі, прыкладаемай да тавараў (работ, паслуг), на спажывецкай тары (упакоўцы), этыкетках або іншым спосабам, прынятым для асобных відаў тавараў (работ, паслуг).

Такім чынам, нормы закона «Аб абароне правоў спажыўцоў» цалкам адпавядаюць нормам закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Лічу, што кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь павінен валодаць дзяржаўнымі мовамі. Акрамя таго, лічу, што прапанаваныя Вамі змяненні прывядуць да дадатковых выдаткаў і да павышэння цэн на тавары і паслугі.

На мой погляд, дзеючая рэдакцыя Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» дасканала забяспечвае ўрэгуляванне адносін у галіне абароны правоў спажыўцоў і не патрабуе ніякіх карэктыў.

Дэпутат Д.І.Харытончык

16 снежня 2014 г.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ДЭПУТАТ
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ДЕПУТАТ
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

17.12.2014 № 242

Случаку І.У.
246012 г. Гомель

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Разгледзеўшы Ваш зварот па пытанні аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь ад 12.12.2014 № 109 "Аб абароне правоў спажыўцоў", паведамляю, што дадзеная прапанова патрабуе ўсебаковай прапрацоўкі і шырокага вывучэння як сярод спажыўцоў, так і сярод вытворцаў.

Трэба адзначыць, што пункт 9 артыкула 7 "Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) вызначае, што інфармацыю аб таварах вытворца абавязаны давесці да ведама спажыўца на беларускай або на рускай мове, што адпавядае артыкулу 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) у абавязковым парадку павінна ўтрымоўваць не менш за 14 звестак аб тавары, а таксама аб складзе харчовых прадуктаў на ўпакоўцы, што ў сваю чаргу патрабуе вывучэння тэхнічных і тэхналагічных магчымасцей абсталявання па выпуску ўпакоўкі, магчымасці чытання нанесеных тэкстаў і фінансавых магчымасцей саміх вытворцаў, а самае галоўнае – любое павышэнне кошту можа выклікаць незадавальненне многіх катэгорый грамадзян.

Прымаючы да ўвагі вышэйвыкладзенае, лічу, што ўнясенне дапаўненняў і змяненняў у дадзены закон у цяперашні час з'яўляецца немэтазгодным.

З павагай,
Дэпутат Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу
Рэспублікі Беларусь І.Мурашка

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання *M&S Media*

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя
"Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:***
**gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA